© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

наша
# свабода
№82(169) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 ЖНІЎНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
тэл. 228-69-18, 210-02-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!
Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.
Наш падпісны індэкс – 63478

## Дамоўленасці застаюцца ў сіле

3 жніўня абодва дэмакратычныя прэтэндэнты на прэзідэнцкае крэсла – старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык і лідэр Гродзенскага аб'яднання «Ратуша» Сямён Домаш – сумесна заявілі, што папярэднія дамоўленасці пра вылучэнне адзінага кандыдата застаюцца ў сіле.

У супольнай заяве У.Ганчарык і С.Домаш сцвярджаюць: «Апошнім часам беларускімі дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі распаўсюджваюцца чуткі пра супярэчнасці паміж намі. Мы з поўнай адказнасцю заявляем грамадзянаў Беларусі, нашых прыхільнікаў, што застаемся вернымі прынятым на сябе абавязацельствам – ісці разам да нашай агульнай перамогі. Мы заяўляем, што нашая дамоўленасць пра вылучэнне адзінага кандыдата на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах застаецца ў сіле».

На сустрэчы 1 жніўня з дэлегацыяй Парламенцкай асамблеі Савета Эўропы адзіны кандыдат Уладзімір Ганчарык (Сямён Домаш не змог прысутнічаць на сустрэчы з «тройкай». – **Р.Б.**) пацвердзіў гатоўнасць да кампрамісу ў рамках існуючай апазіцыйнай «пяцёркі» плюс Міхаіл Марыніч. Гэтым еўрапейская місія надзвычай усцешаная, пра што 3 жніўня на выніковай прэс-канферэнцыі заявіў дакладчык па Беларусі Палітычнага камітэта ПА СЕ Вольфганг Берандт. «Мы сустракаліся з максімальнай колькасцю палітычных сілаў, у тым ліку і патэнцыйнымі кандыдатамі ў прэзідэнты. Нас вельмі цікавіла пытанне: ці сапраўды апазіцыя гатовая ўдзельнічаць у выбарах агульнай сілай? Мы атрымалі пацверджанне: калі Ганчарык будзе зарэгістраваны кандыдатам, Домаш здыме сваю кандыдатуру, калі рэгістрацыю пройдзе Домаш – Ганчарык здымае сваю. Сённяшняя сітуацыя адрозніваецца ад той, якая назіралася на парламенцкіх выбарах, большай з'яднанасцю апазіцыі. Мы ўбачылі апазіцыйныя настроі і ў складзе наменклатуры: на сустрэчах з Сініцыным і Марынічам абодва нядаўнія прадстаўнікі наменклатуры заявілі пра гатоўнасць падтрымаць адзінага кандыдата», – падкрэсліў В.Берандт.

**Рыгор БУЯН**

## Стасункі ЗША і Беларусі залежаць ад выбараў

Сёлета афіцыйныя стасункі паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Беларуссю або значна палепшацца, або значна пагоршацца; яны не могуць застацца на тым жа ўзроўні. Такую думку ў гутарцы з журналістамі 3 жніўня выказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак. Паводле яго словаў, усё будзе залежаць ад таго, як будуць праведзеныя прэзідэнцкія выбары ў рэспубліцы.

«Мы абмяркавалі з беларускім урадам ва ўсіх дэталях тыя крокі, якія яму неабходна зрабіць, каб выканаць свае міжнародныя абавязацельствы, а таксама абмяркавалі тыя крокі, якія ЗША зробяць для таго, каб спыніць тыя ненармальныя стасункі, якія ёсць, – заявіў сп. Козак. – Выбары – гэта цудоўная магчымасць палепшыць стасункі. Калі выбары будуць праведзеныя ў адпаведнасці з усімі стандартамі, стасункі значна палепшацца незалежна ад таго, каго абяруць... Таму Беларусь павінна выканаць свае міжнародныя абавязацельствы. Як краіны-члены АБСЕ мы ўсе гэтыя абавязацельствы маем. Мы абавязаныя праводзіць свабодныя справядлівыя празрыстыя выбары пад назіраннем АБСЕ, БДІПЧ, Камітэта па правах чалавека і дэмакратыі».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Пуцін не хоча падтрымліваць Лукашэнку



Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін адмовіўся ад публічнай падтрымкі цяперашняга кіраўніка Беларусі. У інтэрв'ю агенцтву «Интерфакс» ён заявіў, што «Расія не можа і не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі ў сувязі з выбарамі ў гэтай краіне». Гэтую заяву У.Пуцін зрабіў у рэзідэнцыі «Бочаров ручей» пасля сустрэчы з сваім беларускім калегам 2 жніўня. «Выбар – выключна за народам Беларусі, нашым брацкім народам», – дадаў расійскі прэзідэнт.

Прыгадваючы, якую ролю адыгралі прадстаўнікі Расіі ў сумных падзеях лістапада 1996 года, калі Аляксандр Лукашэнка ледзьве не згубіў сваю пасаду, можна палічыць гэта добрым знакам. Як вядома, тады прыезд у Беларусь прэм'ер-міністра Расіі Віктара Чарнамырдзіна і старшыняў абедзвюх палатаў Дзяржаўнай Думы Генадзя Селязнёва і Ягора Строева фактычна сарваў абвяшчэнне імпічменту беларускаму кіраўніку Вярхоўным Саветам 13-га склікання.

Заява Уладзіміра Пуціна азначае, што Расія не здолела абраць кандыдата ў прэзідэнты Беларусі, які б абараняў расійскія інтарэсы лепш за А.Лукашэнку. Цяперашні беларускі правіцель да смерці надакучыў гаспадару Крамля, яму вельмі хацелася б яго памяняць на некага, але – няма на каго. Зразумела, што калега Уладзіміра Жырыноўскага ў Беларусі Сяргей Гайдукевіч не атрымае перамогі на выбарах, а Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш больш дбаюць пра незалежнасць Беларусі, чым пра расійскія інтарэсы. Таму Расіі застаецца толькі адысці ўбок і ўважліва сачыць за ходай передвыбарнай гонкі.

Пазіцыя расіянаў у дачыненні да падзеяў у Беларусі простая. Пры перамозе на выбарах прадстаўніка шырокай грамадскай кааліцыі Расія нагадае, што Лукашэнку ніколі не падтрымлівала, і на гэтым атрымаць ачкі ў новага прэзідэнта Беларусі. А калі ўлада застанецца за А.Лукашэнкам, то заўсёды можна будзе паўтарыць суперпапулярную фразу, якую прыпісваюць амерыканскаму прэзідэнту Рональду Рэйгану: «Ён, канешне, сукін сын, але ж наш сукін сын!»

Крэмль дагэтуль вельмі старанна рабіў выгляд, што не заўважае апошнія скандалы, звязаныя са знікненнямі людзей у Беларусі. Заява У.Пуціна пра «неўмяшальніцтва» азначае, што і далей скандальнае выкрыццё дзейнасці беларускага кіраўніка і ягонага атачэння не паўплывае на пазіцыю Расіі.

Кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі, прафсаюзны лідэр Уладзімір Ганчарык неаднаразова казыраў тым, што праводзіць кансультацыі як у адміністрацыі прэзідэнта У.Пуціна, так і ў палітычных колах Расіі. Цяпер можна лічыць, што гэты козыр з ягонай рукі выбіты. Але застаецца шмат іншых, якія неабходна выкарыстоўваць. «Нейтралітэт» Расіі азначае, што разлічваць трэба толькі на ўласныя сілы, якіх, дарэчы, не так ужо мала. Кошт перамогі вельмі высокі, таму пазмагацца ёсць за што.

Калі ж заява прэзідэнта Расіі – проста дыпламатычны крок, то гэта стане зразумела вельмі хутка. І тады пабачым, чаго вартыя словы былога разведчыка.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Заговор номенклатуры

За месяц до президентских выборов в Беларуси, которые пройдут 9 сентября, политическое напряжение достигло кульминации. По информации газеты «Время новостей», белорусские спецслужбы расследуют оперативное дело по факту подготовки антиконституционного переворота. Причем помимо известных оппозиционеров в нем якобы фигурируют и высшие государственные чиновники – глава администрации президента Михаил Мясникович и премьер-министр Владимир Ермошин. Именно на материалах этого дела основывался Александр Лукашенко, когда во вторник, выступая перед «исполнительной вертикалью», косвенно обвинил Ермошина и Мясниковича в подготовке заговора.

Глава государства обнародовал документы, в которых, в частности, утверждалось, что выдвижение кандидатом в президенты бывшего министра внешнеэкономических связей, а затем посла в Латвии Михаила Маринича инспирировано главой администрации. Более того, на закрытой части заседания Лукашенко сказал, что по первоначальному плану кандидатом должен был стать сам Мясникович. Лукашенко, правда, заявил, что документам не верит. Но сослался на запись конфиденциальной беседы Михаила Маринича в некоем посольстве. Судя по всему, наблюдение за Мариничем осуществлялось как раз в рамках расследования оперативного дела.

По имеющейся информации, заведено оно было, по меньшей мере, месяц назад службой безопасности президента. В качестве потенциального заговорщика помимо Маринича, Ермошина и Мясниковича фигурирует лидер движения «За новую Беларусь», бывший министр сельского хозяйства Василий Леонов.

В КГБ Беларуси факт расследования подтвердить отказались, поскольку вся информация об оперативных делах проходит под грифом «секретно» либо «совершенно секретно». Если подозрения, на основании которых заведено оперативное дело, подтвердятся, оно может быть переквалифицировано в уголовное.

«Заговорщики», естественно, все отрицают. «То, что у меня хорошие личные отношения с Ермошиным и Мясниковичем, не значит, что мы осуществляем какую-то совместную политическую деятельность», – сказал Михаил Маринич. «В свете президентского выступления можно предположить, что какие-то дела действительно заведены, – считает Василий Леонов. – Но это не значит, что для них есть реальные основания». Оппозиция обвиняет в заговоре самого Лукашенко.





«Заговорщики» Владимир Ермошин и Михаил Мясникович

*Окончание на стр.3*

## Кнігі для міліцыі

Актывісты руху «Зубр» завіталі днямі ў кожнае раённае ўпраўленне ўнутраных справаў Мінска і раздалі супрацоўнікам міліцыі дзесяткі рускамоўных варыянтаў кніг Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча «Десять веков белорусской истории». Мэта акцыі – паслабленне супрацьву паміж міліцыяй і моладдзю і спрыянне паразуменню праваахоўнікамі таго, за што яна змагаецца.

## Прыросты інвестыцыяў у краінах СНД

У першым паўгоддзі 2001 года аб'ём інвестыцыяў у асноўны капітал у краінах павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў сярэднім на 7%. У Беларусі гэтая лічба раўняецца 1%, ва Украіне – 4%, Казахстане – 22%, Арменіі – 32%, Кыргызстане – 59%.

## Дэсантнікі паводзіліся мірна

2 жніўня падчас святкавання Дня дэсантнікаў сур'ёзных інцыдэнтаў у Мінску з удзелам колішніх вайскоўцаў не было. У мінулым годзе гэтым днём за самыя розныя правапарушэнні ў сталіцы было затрымана 18 былых дэсантнікаў.

## Няма зарплаты – няма машыны

Паводле ўрадавай пастановы, юрыдычным асобам забаронена набываць транспарт для службовага карыстання, калі прадпрыемства мае запазычанасць па заробках перад сваімі працоўнымі, а таксама не разлічылася па плацяжах у бюджэт.

## Сувязісты

Сярэдняя заработная плата па галіне сувязі і камунікацыяў за чэрвень склала 138,8 тысячы рублёў. Што да працы прадпрыемстваў сувязі, то са стратамі дзейнічаюць «Віцебскаблтэлекам», «Гомельаблтэлекам», «Гроднааблтэлекам», «Мінскаблтэлекам», «Магілёўаблтэлекам» і «Міжгародняя сувязь», а таксама частка падраздзяленняў мае аб'яднанне «Белпошта».

## Дапамога пацярпелым ад паводкі

Саюз палякаў на Беларусі абвесціў з 3 жніўня збор на дапамогу грамадзянам Польшчы, што пацярпелі нядаўна ад паводкі. Ахвяраванні будуць пералічвацца на адмысловы рахунак у Польшчы.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1455**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Лукашенко не признает президента Югославии

## Очередные откровения правителя усилят изоляцию Беларуси




Похоже, Союзная Республика Югославии дополнит перечень европейских государств, для которых правитель Беларуси является нежелательной персоной. А ведь еще не так давно СРЮ зазывали в белорусско-российский союз. Но после проигрыша Милошевича и избрания нового президента Коштуницы политики при власти в Беларуси замолкли на эту тему. Зато при каждом удобном случае они стали говорить, что с ними так называемый югославский вариант не пройдет. И второго Коштуницы в Беларуси не будет. Последним о нежелательном Коштунице говорил Лукашенко 31 июля на «вертикальном» совещании. Как известно, на нем он детально расписал сценарий событий, который может произойти 10 сентября, на следующий день после президентских выборов в Беларуси. Не секрет, что это выступление стало предметом анализа не только политологов.

Выборы президента Югославии осенью прошлого года стали неприятным сюрпризом и нежелательным примером для нынешнего руководства Беларуси. Ведь Белград был одной из немногих европейских столиц, куда Лукашенко и его помощники могли ездить. Помнится, один из них возил туда гуманитарную помощь с баяном в руках, а другой дурачил белорусских телезрителей своими репортажами о каких-то добровольцах-цыганах. После избрания Коштуницы в белорусско-югославских отношениях возникла пауза. В спешном порядке был отозван из Минска домой югославский посол. А многие, особенно белорусские чиновники, стали роптать о югославском варианте для Беларуси. Тогда фамилия нового президента Югославии и стала нарицательной для тех, кто стал говорить о вариантах трансформации политической власти в Беларуси. И все чаще об этом стал говорить сам Лукашенко. Особенно после доставки Милошевича в гаагскую тюрьму. Для белорусского правителя Коштуницу назначил Запад, а не избрал народ. Тем самым, фактически, для официального Минска президент некогда братской Югославии стал нелегитимным. Лукашенко не спешил посылать в Белград своего нового посла. А уж когда решил, то им оказался экс-председатель КГБ генерал Мацкевич. Чекисту-дипломату будет что изучать на новом месте работы. Насколько его рапорты в Минск окажутся востребованными, пока сказать трудно. Как и то, какие перемены произойдут в Беларуси после сентябрьских выборов. Оппозиция и белорусский «Коштуница», коим считают единого потенциального кандидата в президенты Владимира Гончарика, обещают одно, а Лукашенко – совершенно другое.

Скорректировать открыто негативное отношение Лукашенко к Коштунице не смог даже визит Путина в Белград. Этот визит подтвердил, что сербы продолжают видеть в России своего союзника. А вот об отношении к Беларуси, видимо, можно будет судить только после президентских выборов. Пока о вручении верительных грамот послом Мацкевичем президенту Коштунице ничего не слышно. Некоторые наблюдатели обратили внимание, что во время недавнего вояжа на Балканы заместитель министра иностранных дел Александр Михневич проехал мимо Белграда. По некоторым данным, последние высказывания Лукашенко, в которых упоминалась фамилия югославского президента в негативном смысле, не остались без внимания посольства Югославии в Минске. Не исключено, что белорусский МИД может получить, а может уже получил соответствующую ноту.

После ухода Милошевича членство Югославии в ОБСЕ было восстановлено. Оно было приостановлено тогда, когда, игнорируя мировое сообщество, Милошевич начинал развязывать одну за другой межэтнические войны. Итогом их стала разрушенная Югославия, оказавшаяся в изоляции. Сейчас можно уже говорить, что ее внешнеполитическая изоляция прекратилась. В страну пошли инвестиции, и начался процесс восстановления экономики. У сербов появилась надежда на лучшую, достойную жизнь. Для Беларуси реальна другая перспектива. Если будет продолжаться с ОБСЕ затеянная Лукашенко игра нервов, когда создана проблема с международными наблюдателями Бюро демократических институтов и прав человека — структуры ОБСЕ, то исход объявленных выборов будет предрешен. Президентские выборы не будут признаны мировым сообществом. В этом случае в довольно щекотливом положении окажется и братская Россия. Ведь ее наблюдатели должны быть среди других от ОБСЕ. И тогда, что вполне возможно, Беларуси дадут прочувствовать югославский опыт членства в ОБСЕ. После чего внешнеполитическая активность Беларуси будет проявляться в таких международных организациях, как Движение неприсоединения, Лига арабских государств, Организация американских государств и преобразующаяся в Африканский союз Организация африканского единства. Уж по всем векторам наездятся по свету! Несмотря на скромные командировочные. Но для этого надо провести выборы по общепринятым демократическим стандартам.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Заговор номенклатуры

*Окончание, начало на стр.1*

По мнению единого кандидата Владимира Гончарика, выступая во вторник, президент практически открыто признался в том, что избрал силовой сценарий выборов и не отдаст власть при любом их исходе.

Последние события в Минске очень беспокоят Лукашенко. Пока против его режима выступали «профессиональные оппозиционеры» вроде непопулярного Белорусского Народного Фронта или отдельные отщепенцы из числа обиженных соратников, «батька» мог быть спокоен – государственная машина блокировала любую фронду. Сейчас же брожения начались в среде номенклатуры, опоры президентской власти. Не случайно его главным соперником стал не выходец из либеральной среды, а профсоюзный номенклатурщик советской закваски Владимир Гончарик. Да и остальные оппозиционеры – экс-министры, экс-губернатор, лидер компартии – отнюдь не диссиденты. Чиновничество не просто устало от непредсказуемого лидера, но и боится его – Лукашенко обвиняют в личной причастности к исчезновениям людей, среди которых бывшие члены руководства страны. Примечательно, что обвинения звучат также из уст не правозащитников, а беглых работников силовых ведомств и опального управделами, человека, некогда очень близкого президенту.

Аналитики давно говорили о том, что в реальной ситуации, существующей в Беларуси, смена власти посредством альтернативных выборов крайне маловероятна. Режим Лукашенко пошатнется только в том случае, если заменить его захочет аппарат. Появление в рядах оппозиционеров таких ранее безусловно лояльных людей, как Маринич, свидетельствует именно об этом. Маринича, неожиданно выдвинувшего свою кандидатуру в начале лета, считали ставленником недовольной бюрократии. Ходили слухи, что за ним стоял не только Мясникович, но и бывший глава КГБ Владимир Мацкевич, уволенный в прошлом году, как предполагают, из-за излишнего рвения в расследовании исчезновений людей. «Раскрутить» Маринича не успели, он не собрал нужного количества подписей, но теперь, уволившись из МИДа, он возглавил штаб Гончарика. Причем сконцентрировать усилия намерен на работе с представителями исполнительной власти, крупного бизнеса, директорами предприятий.

Все участники минских баталий помнят о недавних событиях в Белграде. Лукашенко очень боится (и не скрывает этого) появления «белорусского Коштуницы» — ведь малозаметного лидера второстепенной сербской партии никто не воспринимал всерьез до последнего момента. Судьба Милошевича, который за полгода из всемогущего диктатора превратился в заключенного, скорее всего, научила белорусского президента одному — за власть нужно биться до последнего и любыми средствами.

**Юрий АНДРЕЕВ,**
**Игорь МАКСИМОВ**
**«Время новостей»**

# У Пінску ўжо актыўна агітуюць

Апошнім часам на Палесьсі раённыя дзяржаўныя газэты ўсяляк шчыруюць, прапагандуючы дасягненьні цяперашняга кіраўніцтва Беларусі.

На мінулым тыдні амаль усе палескія раёнкі друкавалі матэрыял «Здабываньне надзеі» – сацыяльна-эканамічныя нататкі разьвіцьця Берасьцейскай вобласьці ў 1994-2000 гадох, у якім праз шматлікія лічбы ды працэнты даводзіцца пра паляпшэньне за апошнія сем гадоў жыцьцёвага ўзроўню жыхароў Берасьцейшчыны. Невядомыя аўтары нават назвалі «нацыянальным шанцункам» тое, што ў 94-м годзе да ўлады ў Беларусі прыйшлі тыя, хто кіруе ёй зараз.

Гарадзкая газэта «Пінскі весьнік» зьмяшчае перадрукоўку з «Савецкай Беларусі» з назовам «Размова з бацькам пра час і пра прэзыдэнта». У гэтым вялікім матэрыяле «разумны» бацька пераконвае свайго маладога ды гарачага сына з дэмакратычнымі поглядамі ў тым, што Лукашэнка – ніякі не дыктатар, у Беларусі пануе свабода слова, а, маўляў, дабро і мусіць быць з кулакамі. Аўтар – пісьменьнік Аляксандар Чарніцкі. Аднак, у сакратарыяце Саюзу беларускіх пісьменьнікаў нам паведамілі, што гэты чалавек ніякіх адносінаў да Саюзу пісьменьнікаў ня мае.

Пінскія праваабаронцы лічаць, што гэтая публікацыя ёсьць парушэньнем закону аб выбарах. Гаворыць выканаўчы дырэктар Пінскай рэгіянальнай філіі праваабарончай арганізацыі «Вясна» Васіль Мацкевіч: «Так, гэта ёсьць парушэньне выбарчага заканадаўства, менавіта артыкула 45, які забараняе праводзіць агітацыю да пачатку рэгістрацыі кандыдатаў у прэзыдэнты. І ўлады нашы парушаюць ня толькі Выбарчы кодэкс, але і наогул усё заканадаўства Рэспублікі Беларусь».

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ**
**Радыё «Свабода»**

ЧАС ВЫБІРАЦЬ! 9 верасня



Спрадвеку беларусы лічацца лагоднымі, добразычлівымі і цярплівымі. Прыходзіць «хамская ўлада», а мы ўсё церпім... І вось — нам даецца шанц!

*Зінаіда БАНДАРЭНКА, Народная артыстка Беларусі*

РЭПРЭСІІ

# Міліцыя наступае на моладзь

Супрацоўнікі міліцыі Цэнтральнага РУУС канфіскавалі аргтэхніку ў кватэры па вуліцы Заслаўскай у Мінску, дзе знаходзяцца офісы чатырох дэмакратычных маладзёжных арганізацыяў: «Моладзь Аб'яднанай грамадзянскай партыі», «Маладыя сацыял-дэмакраты», «Маладзёжны хрысціянска-сацыяльны саюз», «Беларускае аб'яднанне маладых палітыкаў», а таксама штаб мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай!»

Прыкладна ў 16 гадзінаў два супрацоўнікі міліцыі паспрабавалі ўвайсці ў кватэру, заявіўшы пра тое, што хочуць праверыць пашпарты людзей, якія знаходзяцца там, і агледзець пакоі. Аднак дзверы ім не адчынілі, спаслаўшыся на тое, што адсутнічаюць гаспадары кватэры. Тады міліцыянеры адключылі электрычнасць і паспрабавалі нагамі выбіць дзверы. Аднак спынілі свае дзеянні, калі з'явіліся журналісты. Па словах маладых людзей, у супрацоўнікаў міліцыі не было ніякага ордэра на вобшук.

Аднак праз паўтары гадзіны да дома прыбыла опергрупа Цэнтральнага РУУС у складзе 6 чалавек, якая прад'явіла ўсе неабходныя дакументы і пачала канфіскоўваць аргтэхніку. У выніку былі канфіскаваныя два камп'ютэры, ксеракс і факс.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Нагляданне не азначае прызнання

*«Дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы аднагалосна вырашыла рэкамендаваць ПА СЕ накіраваць назіральнікаў на прэзідэнцкія выбары ў Беларусь» — такую заяву 3 жніўня пасля трохдзённага маніторынгу ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне зрабіў старшыня Палітычнага камітэта ПА СЕ Тэры Дэвіс.*



Фота Ул.ШАПАКА

Місія ПА СЕ, у склад якой уваходзілі таксама дакладчык камітэта па Беларусі Вольфганг Берандт; дакладчык па Беларусі камітэта па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Кірыл Свобада, сакратар камітэта па палітычных пытаннях Петр Зіхды прэс-сакратар ПА СЕ Франчэск Ферэр цягам трох дзён сустракаліся як з прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска, так і з апазіцыяй, «трэцім сектарам», дыпламатычным корпусам, акрэдытаваным у Мінску.

Менавіта рэкамендацыі накіраваць наглядальнікаў на прэзідэнцкія выбары, а таксама афіцыйнае запрашэнне міністра замежных справаў Міхаіла Хвастова, запрашэнні старшыняў савета рэспублікі Аляксандра Вайтовіча ды палаты прадстаўнікоў Вадзіма Папова сталіся асноўнымі вынікамі візіту «тройкі» ПА СЕ.

Між тым, гэтыя рэкамендацыі не з'яўляюцца канчатковымі. Еўропа зразумела, што пры стасунках з беларускімі ўладамі нельга рабіць адназначныя высновы.

«Мушу адзначыць для нас важнасць работы БДІПЧ АБСЕ. Гэта адзіная структура, якая займаецца назіраннем за выбарамі ў рэгіёне. Іхні прыезд надзвычай важны для ажыццяўлення эфектыўнага нагляддання. Таму мы вельмі расчараваныя тым, што дагэтуль афіцыйнае запрашэнне не накіраванае БДІПЧ. Калі такое запрашэнне паступіць за тыдзень да выбараў – для нас гэта непрымальна, і мы не здолеем ажыццявіць нагляданне», — заявіў Тэры Дэвіс.

Брытанскі парламентар адзначыў, што вечарам 2 жніўня старшыня БДІПЧ АБСЕ Жэрар Штудман паведаміў пра адсутнасць запрашэння ад афіцыйнага Мінска. «З кожным днём затрымкі прыезд місіі БДІПЧ становіцца ўсё менш верагодным. Чым хутчэй запрашэнне будзе дасланае, чым хутчэй місія прыедзе, тым хутчэй прэзідэнт ПА СЕ зацвердзіць нашыя рэкамендацыі», — заявіў Т.Дэвіс.

Цяпер міжнароднае нагляданне за выбарамі залежыць ад беларускіх уладаў. Рэжым зацікаўлены зрабіць хаця б выгляд дэмакратычных выбараў і тым болей зацікаўлены ў прызнанні вынікаў кампаніі. Дзеля гэтага прысутнасць міжнародных наглядальнікаў проста неабходная. Мяркуючы па ўсім, улады ўсё-такі дашлюць запрашэнне наглядаць за выбарамі, але будуць да апошняга зацягваць гэты працэс.

«Для нас неістотна, хто будзе абраны прэзідэнтам. Аднак для нас вельмі важна, каб выбары былі сумленнымі і свабоднымі, каб усе мелі аднолькавы доступ да СМІ не толькі ў час выбарчай кампаніі, але і ў працэсе яе падрыхтоўкі», — падкрэсліў Тэры Дэвіс.

**Рыгор БУЯН**

# 34 дэкларацыі на чацвярых

Усе чацвёра патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, якія маюць усе шанцы працягнуць прэзідэнцкую барацьбу, лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч, старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, кіраўнік аб'яднання «Ратуша» Сямён Домаш ды Аляксандр Лукашэнка перадалі ў Цэнтрвыбаркам усе неабходныя для рэгістрацыі дакументы. У тым ліку і дэкларацыі аб сваіх даходах і даходах сваіх бліжэйшых сваякоў, як таго патрабуе дэкрэт №20. У суме чацвёра прэтэндэнтаў сабралі 34 дэкларацыі.

Першым усе фармальныя працэдуры для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты выканаў С.Гайдукевіч. Яшчэ 25 ліпеня лідэр ЛДП перадаў у ЦВК заяву аб згодзе балатавацца кандыдатам у прэзідэнты, аўтабіяграфію, уласную дэкларацыю аб даходах і маёмасці і аналагічныя дэкларацыі на сямёра сваякоў: жонку, дачку з сынам, унучку, маці, бацьку ды цешчу. «Мне няма чаго хаваць», — заявіў С.Гайдукевіч журналістам, выказаўшы гатоўнасць перадаць усе звесткі пра даходы прэсе.

Другім перадаў дакументы на рэгістрацыю А.Лукашэнка – заяву, аўтабіяграфію ды сем дэкларацыяў. 2 жніўня кіраўнік яго ініцыятыўнае групы Мікалай Чаргінец заявіў, што дэкларацыі пададзеныя на «сябе, жонку, маці, цешчу, двух сыноў і маленькую ўнучку». Пра даходы А.Лукашэнкі сенатар гаварыць не стаў. Можа стацца, што А.Лукашэнка апынецца прэтэндэнтам-жабраком, бо знаходзіцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні.

Апошнімі падавалі дакументы на рэгістрацыю прэтэндэнты ад шырокай грамадскай кааліцыі. І Уладзімір Ганчарык, і Сямён Домаш надзвычай пільна займаліся дэкларацыямі. Так, вечарам 2 жніўня патэнцыйны кандыдат Сямён Домаш падаў у Цэнтрвыбаркам дэкларацыю аб даходах і маёмасці ды дэкларацыі на жонку, двух сыноў і ўнука, якія жывуць разам з ім у Гродна, а таксама на маці, сястру і брата, што жывуць у Баранавічах, і цешчу з Гомельскай вобласці. Афармленне ўсіх папераў заняло некалькі дзён.

С.Домаш асабіста наведаў усіх сваякоў і пабываў у падатковых інспекцыях. Надзвычай сур'ёзныя праблемы ў патэнцыйнага кандыдата ўзніклі з цешчай, якая «захварэла, і на хваробу вельмі сур'ёзную». «Мне давялося самому выязджаць туды, шукаць усе звесткі, каб пацвердзіць тое, што трэба было запісаць у дэкларацыі. І нялёгка было з ёй гэта зрабіць, бо яна страціла ў выніку хваробы мову і размаўляе даволі цяжка. На складанне дэкларацыі цешчы пайшло больш за два дні», — заявіў С.Домаш.

Паводле дэкларацыі, С.Домаш мае аўтамабіль «Аўдзі-100», разам з жонкай Зояй Фёдараўнай яны валодаюць жылым домам у Гродне, садовым участкам на 8 сотак і садовым домікам. Гадавы даход Сямёна Домаша ў якасці кіраўніка «Ратушы» летась склаў 256 тысяч рублёў.

Асобным пунктам у дэкларацыі значыцца жылы дом С.Домаша. Ён быў выкуплены патэнцыйным кандыдатам у сакавіку 1994 года, але пасля рэферэндуму 1996 года, калі С.Домаш паставіў подпіс пад патрабаваннем імпічменту А.Лукашэнку, Ленінскі раённы суд Гродна прызнаў дагавор куплі-продажу несапраўдным. Судовая эпапея з домам цягнецца дагэтуль, але так як у Дзяржаўнай падатковай інспекцыі дом лічыцца ўласнасцю С.Домаша, жыллё ўсё ж вырашана было задэклараваць.

Больш за ўсіх пры зборы дэкларацыяў давялося папацець адзінаму прэтэндэнту ў прэзідэнты старшыні ФПБ Уладзіміру Ганчарыку, які перадаў дакументы на рэгістрацыю 3 жніўня. Адзінаму прэтэндэнту давялося сабраць найбольшую колькасць дэкларацыяў пра даходы і маёмасць – 11: на сябе, жонку, дачку, сына, трох унукаў, маці, брата, дзвюх сясцёр. Па асноўным месцы працы даходы за мінулы год склалі каля 2,5 мільёнаў рублёў, за прададзеную «Волгу» 1990 года выпуску выручыў 1.300 тысячаў рублёў і за прададзены гараж – 1.100 тысячаў. Дзеля застрахоўкі Уладзімір Ганчарык мусіў задэклараваць такія дробязі, як адна лекцыя (каля 5 тысячаў рублёў) і тры падарункі да юбілею.

Застрахоўваючыся яшчэ болей, Уладзімір Ганчарык палічыў за неабходнае перадаць у ЦВК нават копіі пацвярджаючых дакументаў. Складанасціў асабліва пры зборы дэкларацыяў – калі, канечне, не лічыць аб'ём праведзенай работы – не было. Прыкладам, прыватызаваную кватэру давялося ўказваць у дэкларацыях і Уладзіміру Ганчарыку, і яговай жонцы, бо маёмасць гэтая – сумесная.

Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты завершыцца 15 жніўня.

**Рыгор БУЯН**

# Мечыслаў Грыб: «Усё ідзе да масавых фальсіфікацыяў»

Фарміраванне ўчастковых камісіяў па выбарах прэзідэнта прайшло з масавымі парушэннямі заканадаўства – да такой высновы прыйшла нефармальная грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» па выніках доўгатэрміновага назірання.



Актывісты «Незалежнага назірання» змаглі сабраць звесткі пра парушэнні толькі з 51,59% раёнаў Беларусі. Такі «палавінчаты» тэрытарыяльны ахоп выкліканы тым, што ўнутраным назіральнікам «вертыкаль» не дазваляла прысутнічаць на паседжаннях тэрытарыяльных камісіяў, дзе вызначаўся склад участковых, дзэінфармавалі іх пра час паседжанняў, адмаўлялася даваць інфармацыю пра пададзеныя заяўкі ад патэнцыйных членаў камісіяў. Увогуле, прынцып адкрытасці і галоснасці парушаўся паўсюдна і масава.

Паводле кіраўніцтва «Незалежнага назірання», якое 4 жніўня дало прэс-канферэнцыю, 30.386 чалавек, ці 88,68% ад агульнай колькасці членаў участковых камісіяў, складаюць прадстаўнікі «працоўных калектываў, пенсіянеры і гэтак далей», прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і прафсаюзаў – 2.007 чалавек, ці 5,86%, прадстаўнікі органаў мясцовага самакіравання, «вертыкалі» і дзяржаўных структураў – 1.767 чалавек, ці 5,16%, і толькі 106 чалавек, ці 0,3%, з'яўляюцца прадстаўнікамі палітычных партыяў. Сітуацыю пра парушэнні заканадаўства ў часе фарміравання ўчастковых камісіяў аналізуе сустаршыня «Незалежнага назірання» Мечыслаў Грыб.

— Камісіі былі сфарміраваныя датэрмінова, напаўтаемна – не пусцілі на паседжанні выканкамаў нашых назіральнікаў, і ў камісіі, як вынік, не ўключылі прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў. Увогуле, з 87 тысячаў чалавек, якія ўвайшлі ў склад участковых камісіяў, ад палітычных партыяў і арганізацыяў толькі 3,5 тысячы. Гэта вельмі і вельмі нізкі працэнт.

Як і на парламенцкіх выбарах, частка камісіяў сфарміраваная з адных калектываў, напрыклад, адной школы, і кіраўніком гэтай камісіі з'яўляецца ці дырэктар, ці яго намеснік. Рознымі шляхамі атрымалася, што ў склад камісіяў уваходзяць людзі, якія на працы падпарадкоўваюцца свайму кіраўніку – старшыні камісіі.

*— Якія высновы «Незалежнае назіранне» зрабіла з зафіксаваных парушэнняў у часе фарміравання выбарчых камісіяў?*

— Усё ідзе да падпарадкавання камісіяў выканаўчай уладзе і каб улада магла камандаваць камісіямі, каб магла выканаць загад, які атрымае ад вышэйшай улады. Працэс ідзе да стварэння ўмоваў для фальсіфікацыі выбараў у буйным маштабе.

*— Ці можа «Незалежнае назіранне» штосьці-небудзь супрацьпаставіць дзяржаўнай машыне фальсіфікацыі?*

— Весці барацьбу з уладай, якая імкнецца сфальсіфікаваць выбары, вельмі і вельмі цяжка. Але можна зафіксаваць гэтыя парушэнні, скласці акт, паслаць яго ў вышэйстаячую камісію, у пракуратуру, у суд, перадаць гэтыя парушэнні галоснасці – гэта ўсё разам прывядзе да таго, што выбары альбо не прызнаюць, альбо адменяць іхнія вынікі.

**Рыгор БУЯН**

## СВЕТ

# В Тбилиси тоже говорят о военном перевороте

## *И не хотят, чтобы Россия «аннексировала Грузию как Беларусь»*

2 августа представители грузинских парламентских и внепарламентских оппозиционных партий провели митинг протеста у здания парламента, требуя от него принять демократический избирательный кодекс.

Участники митинга заявили, что намерены покончить с нынешним руководством страны путем проведения выборов и таким образом наказать власти, положив конец «геноциду грузинской нации».

Лидер Народного фронта Грузии Нодар Натадзе заявил, что президент Эдуард Шеварднадзе и правящая партия (Союз граждан Грузии) планируют военный переворот, и добавил, что российское прокоммунистическое правительство помогает им в этом. По словам Н.Натадзе, правительство России уже распределяет деньги и оружие в Грузии, с тем чтобы переворот произошел в сентябре-октябре нынешнего года.

Н.Натадзе добавил, что план России нацелен не только на сохранение своих военных баз в Грузии, но и на увеличение их числа, чтобы «пустить корни в Грузии и аннексировать ее так же, как была аннексирована Беларусь», сообщает агентство «Ипринда».

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Тбилиси**

# Милошевича оштрафовали

Антикоррупционная комиссия правительства Сербии включила бывшего югославского президента Слободана Милошевича в число людей, незаконно приобретавших элитную недвижимость. Милошевичу наряду с другими лицами из списка предстоит выплатить специальную единовременную пошлину.

Как сообщил корреспонденту ВВС министр Сербии по городскому планированию Драгослав Сумарач, чиновники выяснили, что ряд домов стоимостью свыше 200 тысяч долларов каждый, построенных в пригороде Белграда Дединье, принадлежат Милошевичу.

Бывший руководитель Югославии сейчас находится в тюрьме Гаагского трибунала и потому вряд ли сможет выплатить сербскому правительству необходимую сумму.

**Максим ИВАНОВ**

# ФРГ будет закрывать границу по-канадски

*Правительство ФРГ меняет критерии для въезда в страну иммигрантов. Теперь квалифицированным специалистам получить немецкое гражданство будет проще, но вот политическое убежище получить будет практически невозможно.*

Правительство Германии предложило внести в иммиграционное законодательство страны изменения, которые касаются правил предоставления вида на жительство. По словам представителей правительства, поправки позволят обеспечить приток в страну образованных молодых людей и ограничить наплыв беженцев.

Прежде всего, предлагается облегчить въезд в страну зарубежным специалистам, в которых нуждается германская экономика.

Проще всего разрешение на въезд и проживание в стране смогут получить молодые люди с высшим образованием, особенно инженеры и компьютерщики.

Вместе с тем предложенные правительством поправки предусматривают ужесточение правил предоставления политического убежища. В частности, иммигранты должны как минимум знать язык, тогда как сейчас это не является определяющим фактором. Соискатели политического убежища, чьи заявления отклоняются, будут высылаться из Германии гораздо быстрее, чем это делается в настоящее время. Отличать же квалифицированного специалиста от нежелательного иммигранта будет специальное федеральное управление по делам иммиграции и политических беженцев.

Сейчас существует несколько официально признанных причин для временной или постоянной иммиграции в Германии. Это поиск политического убежища, право на въезд для супругов и детей граждан Германии и иностранцев, проживающих в стране, право свободного передвижения и повсеместного проживания для граждан других государств – членов ЕС и Европейского экономического пространства, а также желание работать или учиться в Германии. Если же парламент Германии примет предложенные правительством поправки, то при отборе соискателей на въезд будут пользоваться другой схемой, разработанной в Канаде.

Каждому человеку при представлении документов будут начисляться очки согласно его личным качествам и способностям. В Канаде, которую немцы взяли за образец, существует 10 критериев, по которым подсчитываются баллы. Это возраст, общее образование, специальное образование по профессии, профессия, договоренность о работе в Канаде, стаж работы по специальности, знание языков (английский и французский), демографический фактор, личные качества, родственники в Канаде. Максимум можно набрать 112 баллов, а документы людей, набравших менее 70, далее не рассматриваются.

Как передает ВВС, правительство представит новый законопроект на рассмотрение бундестага уже через месяц. По мнению немецких аналитиков, парламент, скорее всего, инициативу министров поддержит. И новые правила вступят в силу уже с начала 2002 года. Впрочем, все зависит от решения оппозиционной Христианско-Демократической партии. Если представителям ХДС покажется, что новый закон слишком сильно увеличит приток иммигрантов, они могут воспрепятствовать ему как непопулярному у избирателей.

Дело в том, что за последние годы в Германии резко возросло число преступлений на национальной почве. Согласно недавно опубликованному отчету Совета Европы, за 2001 год их число увеличилось на 60%. Однако у представителей правительства есть не менее серьезный аргумент в пользу своей инициативы. В июле немецкие статистики подсчитали, что при существующем отрицательном приросте 82-миллионное население Германии сократится к 2050 году на 23 млн. человек. Чтобы избежать вымирания, страна, по мнению экспертов, должна приглашать до 50 тыс. иммигрантов ежегодно.

**Анастасия КАРПОВА**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Белавежская пушча пад пілой

## Улада цынічна нішчыць красу нашага краю

### Запаведнік сусветнага значэння

Белавежская пушча – адзін з самых тытулаваных запаведнікаў не толькі ў Еўропе, але, бадай, і ва ўсім свеце. Ёй 13 тысяч гадоў. У 1992 годзе рашэннем ЮНЕСКО пад нумарам 73 Дзяржаўны нацыянальны парк «Белавежская пушча» ўключаны ў Спіс Сусветнай спадчыны чалавецтва (разам з возерам Байкал, дажджавымі лясамі Амазонкі, вадападам Вікторыя, далінай гейзераў на Далёкім Усходзе і многімі іншымі унікальнымі прыроднымі аб'ектамі). У 1993 годзе яму прысвоены статус біясфернага запаведніка. І, нарэшце, у 1997 годзе Нацыянальны парк «Белавежская пушча» ўзнагароджаны Дыпломам Савета Еўропы за поспехі ў справе аховы прыроды, пасля чаго ён трапіў пад апеку гэтай арганізацыі роўна на пяць гадоў.

За што ж такі гонар і слава гэтаму старому лесу? Белавежская пушча – гэта рэшткі таго, што засталося ад першабытнага раўніннага лесу, які ў дагістарычныя часы рос на тэрыторыі ўсёй Еўропы. Паступова ён быў высечаны і ў адносна непарушаным стане захаваўся толькі ў Белавежскай пушчы.

Ранейшыя ўладальнікі гэтых земляў – літоўскія князі і польскія каралі, рускія цары і імператары, як вядома, ператварылі пушчу ў месца сваіх буйных забаваў і паляванняў, у час якіх жорстка знішчалі дзічыну, рабілі патравы ў лесе.

Першая спроба атрымаць ад пушчы даход датуецца сярэдзінай XVI стагоддзя. Польскі кароль Сігізмунд Аўгуст пабудаваў тут чатыры заводы па вытворчасці жалеза, яго справу працягнуў і развіў апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст, пры якім пачаўся сплаў лесу ў Данцыг, былі адноўленыя заводы па вырабе шкла, керамікі, шкіпінару... У сярэдзіне XIX стагоддзя сюды зачасцілі карабельных справаў майстры з Пецярбурга, яны нанялі тры тысячы чалавек для высечкі лесу, якія на працягу трох гадоў секлі лепшыя пушчанскія дубы і сосны на карабельныя мачты. Дарэчы, газета «Колокол», якую выдаваў А.Герцэн, у 1861 годзе выступіла супраць гэткага вандалізму з артыкулам «Дремучее дело». Рускія вучоныя спрабавалі арганізаваць у пушчы даследаванні, дабіліся спынення суцэльных высечак, правялі ўпарадкаванне лесу, абнеслі пушчу канавай і плотам. Але гісторыя не была літасцівай да гэтага унікальнага лесу. Падчас першай сусветнай вайны ў XX стагоддзі немцы праклалі па тэрыторыі пушчы 300 км вузкакалейкі, пабудавалі чатыры лесапільныя заводы, вывезлі ў Германію 4,5 мільёны кубаметраў высакаякаснай драўніны. На змену ім прыйшлі англійскія канцэсіянеры. Затое падчас Другой сусветнай вайны багацці пушчы фактычна не эксплуатаваліся. У атрыманым у якасці падарунка ад шэфа лесе Г.Герынг вырашыў стварыць паказальную паляўнічую гаспадарку Рэйха, дзе маглі б «размяцца» высокія тытулаваныя асобы.

Лічыцца, што ад рабункаў у савецкія часы, калі дзейнічаў прынцып «усё вакол калгаснае, усё вакол маё», пушчу ўратавалі генеральныя сакратары партыі. Акрамя іх нікога сюды не пускалі, і «жывыя» дрэвы нават пасля вайны, калі патрэбна было шмат драўніны для адбудовы разбуранай гаспадаркі і жылля, не пілавалі. Хаця, як кажуць дасведчаныя людзі, увесь Саўмін, які даволі працяглы час курыраваў пушчу, змог пабудаваць сабе дачы з пушчанскага лесу.

### «Суперлесапільня»

Ліхаманіць пушчу пачало пасля прыходу да ўлады цяперашняга прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі і перадачы яе ў падпарадкаванне Упраўленню справамі прэзідэнта (1994 год). Узначальваў гэтае ведамства Іван Ціцянкоў. Прыехаўшы першы раз у пушчу, Іван Івавіч ледзь не звар'яцеў ад таго, колькі лесу «дарэмна прападае». Для ажыццяўлення сваіх планаў І.Ціцянкоў прыслаў у запаведнік новага дырэктара – Васіля Жукава, які раней кіраваў калгасам. Перад ім была пастаўленая задача арыентавацца ў лясной гаспадарцы выключна на высечкі, разгарнуць на пушчанскіх землях гаспадарчую дзейнасць, якая давала бы неблагі прыбытак у дзяржаўную казну. І Жукаў, абсалютна не кампетэнтны ў справе аховы прыроды, запаведнай справе, навуцы, лясной гаспадарцы, інтэнсіўна пачынае ператвараць Белавежскую пушчу ў вялікі калгас. Скрозь па ўсёй пушчы будуюць дарогі (цяпер па іх ганяюць на джыпах начальнікі), электрыфікуюць і тэлефанізуюць кардоны, ствараюць конеферму, разводзяць гусей, спрабуюць «разабрацца» нават з дзікімі качкамі...

Тое, што можна было атрымаць са старой лесапільні, вядома, ніяк не магло задаволіць апетыты пасеўшых ва ўладзе. Ім патрэбна было вельмі шмат грошай. Ціцянкоў праўдаміняпраўдамі раздабыў пад прэзідэнцкі крэдыт у Германіі (па эквіваленце каля 2 мільёнаў долараў) новую пілараму. Выплачваць грошы трэба было з 1.1.2000 г. «Суперпіларама» аказалася сапраўднай ламачынай і магла працаваць толькі з «сырым» дрэвам (высякаць яго ў пушчы забаронена). Пушчанскае кіраўніцтва, між тым, усялякімі спосабамі спрабавала выйсці з гэтай дурной сітуацыі. Завозіла адзін час сырую драўніну з далёкіх рэгіёнаў, што, зразумела, нерэнтабельна. Цяпер ганяюць машыны, нагружаныя лесам, з тэрыторыі, што паблізу Чарнобыльскай зоны. Што гэта азначае для пушчы – няцяжка здагадацца: пры спальванні апілак пачынаецца радыеактыўнае забруджванне мясцовасці.

«Суперлесапільня» працуе ў пушчы ўжо амаль два гады, можна сказаць, падпольна, бо яна не прынята адмысловай камісіяй (пры пілаванні сухой драўніны ідзе шмат пылу, а пылаўлоўлівальнікі не прадугледжаныя на гэтай раме, і таму ствараецца пажаранебяспечная абстаноўка і парушаюцца правілы гігіены і санітарыі). На лесазаводзе была ўведзеная нават начная змена, каб ніхто нічога не бачыў. Дарэчы, на новых станках можна распілаваць каля 250 кубаметраў круглага лесу за змену. Усе ведаюць, што працаваць у такіх умовах небяспечна для жыцця: пару гадоў падыхаў смоламі – маеш рак лёгкіх. Але гэта, відаць, мала каго хвалюе.

Пасля закупкі ў Германіі пiларамы і пабудовы лесазавода эканамічнае і фінансавае становішча Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» стала проста катастрафічным. Адтэрміноўка па плацяжах за крэдыт ужо немагчымая. Да 1.7.2001 года плацілі толькі працэнты па крэдыце – па эквіваленце каля 100 тысяч нямецкіх марак. Далей трэба выплачваць поўны крэдыт. А грошай няма, бо ўся вытворчасць ледзь напрацоўвала на ранейшую суму. Але ва Упраўленні справамі прэзідэнта робяць выгляд, што парк «выцягне» такія плацяжы.




### «Караеды»

Для «выцягвання» гэтых плацяжоў, напэўна, і быў прысланы ў пушчу чарговы гендырэктар. Пасля ўжо вядомага В.Жукава М.Бамбіза – чацвёрты кіраўнік. У «Белавежскую пушчу» ён пераведзены з Нацыянальнага парку «Прыпяцкі», дзе, як можна меркаваць па выніках, з яго ўдзелам быў арганізаваны эксперымент, падчас якога прайшоў апрабацыю новы вектар распродажу нацыянальнага багацця Беларусі. У Прыпяцкім парку М.Бамбіза пабудаваў «заводзік», абсталяванне якога здольнае перапрацаваць да 1.000 кубаметраў драўніны ў тыдзень, а пры гэтым спаганяў «экалагічны збор» за праезд любога аўтатранспарту, нават мясцовых жыхароў. Людзі яшчэ памятаюць, як па першым часе на экалагічныя варты прыязджаў персанальна Іван Ціцянкоў і пытаўся: «Ну як? Колькі грошай сабралі?» І патрабаваў павышаць нормы выпрацоўкі. Гэты чалавек любіў быць пры «жывых» грошах. Будучы «разжалаваным» з загадчыкаў гаспадаркі прэзідэнта і высланым у Маскву, ён не страціў спрытнасці: набыў грамадны ўчастак некранутага лесу ў Сібіры, адкуль вывозіў яго ў першапрастольную, дзе драўніну распілоўвалі і вывозілі на Захад. Толькі на рамонт сваёй пяціпакаёвай кватэры, што непадалёк ад Паклоннай гары, на Кутузаўскім праспекце, ён заплаціў 300 тысяч долараў.

Мікалай Бамбіза і з першага дня работы ў Белавежскай пушчы ўзяў жорсткі курс на высечку жывых дрэваў для лесазавода. Адразу хацеў сячы старыя сосны і дубы. На іх абарону ўсталі леснікі. Але тут пачалося масавае развіццё яловага караеда. Карыстаючыся гэтым, без усякіх дазволаў і ўзгадненняў, арганізаваў масавую высечку жывых дрэваў у месцах развіцця караеда. Пад страхам звальнення леснікі мусілі падпарадкавацца загадам свайго шэфа.

Апетыт, як вядома, прыходзіць у час ежы. Пад выглядам барацьбы з караедам дырэктар вырашыў арганізаваць суцэльную высечку «жывога» лесу на вялікіх плошчах – ён прывык высякаць так, як высякаюць у леспрамгасе. Але гэта акцыя патрабуе спецыяльнага дазволу. Таму была створаная ведамасная камісія пад кіраўніцтвам А.Лучкова, куды, аднак, не ўвайшлі эколагі і вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама спецыялісты самой Белавежскай пушчы. Гэта камісія і склала акт на правядзенне санітарных высечак, затым падрыхтавалі неабходныя дакументы, падсунулі іх у міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і міністэрства лясной гаспадаркі і атрымалі першы дазвол на высечку. Хаця дзеля прыняцця такога важнага рашэння не быў праведзены нават вучоны савет, дзе вырашаюцца ўсе важныя пытанні. Вось гэты дакумент:

*Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь*
*17.07.01 № 08-3-4*
*Нацыянальны парк «Белавежская пушча»*

*Мінлясгас па ўзгадненні з мінпрыроды дазваляе правядзенне суцэльных высечак расстроеных насаджэнняў елкі на тэрыторыі Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» ў кварталах 507, 529, 585, 586, 653, 621 Хвойніцкага, Каралева-Мастоўскага і Нікорскага лясніцтваў агульнай плошчай 15, 52 га з захаваннем іншых пародаў дрэваў і рэалізацыі мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць натуральнаму аднаўленню.*

*Першы намеснік міністра Н.Т.Юшкевіч*

Але ажыццявіць акцыю не ўдалося дзякуючы намаганням грамадскасці. А калі б удалося, то сённяшнія «гаспадары краіны» — айчынныя вандалы, для якіх няма нічога святога, акрамя грошай, змаглі б разгарнуцца з высечкамі і заплацілі б нашым нацыянальным багаццем — Белавежскай пушчай — за свае махлярствы і злачынныя здзелкі, накіраваныя на ўласнае ўзбагачэнне і магчымасць утрымліваць уладу.

Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя аператыўна стварыла яшчэ адну камісію для праверкі фактаў і прыняцця рашэння па высечках. Узначаліў яе акадэмік Віктар Парфёнаў, які вельмі добра ведае пушчу, працаваў у ёй і з'яўляецца членам вучонага савета парку. Нягледзячы на тое, што дырэкцыя парку падабрала свой маршрут і ўсяляк спрабавала ўплываць на прыняцце рашэння, камісіяй былі выяўленыя шматлікія грубейшыя парушэнні правілаў тэхналагічнай дысцыпліны высечак, а таксама шматлікія парушэнні заканадаўства пры ажыццяўленні гаспадарчай дзейнасці. Так, члены камісіі на свае вочы змаглі ўбачыць, што падрыхтаваная драўніна не вывозіцца з лесу месяцамі, караеды разлятаюцца і па-новаму заражаюць лес. Выяўлена няправільная адводка дрэваў на высечку. На некаторых участках намечана ў высечку шмат жывых дрэваў, якія ўвогуле не заражаныя караедам і актыўна змагаюцца з ім (заліваюць смалой пашкоджанні). Ёсць сярод ахвяраў нават і дрэвы-волаты.

Дарэчы, па правілах у запаведніку павінны выкарыстоўвацца пераважна біялагічныя метады ў абароне лесу. Супраць караеда прымяняюцца спецыяльныя пасткі з ферамонам – рэчывам, якое прываблівае паразіта. Але пра іх ніхто нават і не думае. Акрамя высечкі лесу, іншыя метады барацьбы не прымяняліся і не прымяняюцца. Такім чынам, камісіяй зробленая выснова, што для дырэкцыі Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» галоўнае — не перамагчы караеда, а ссячы пабольш дрэваў.

Чаму такое можа адбывацца ў нашай краіне? Чаму ў Белавежскай пушчы, сусветна вядомым запаведніку, не думаюць аб захаванасці рэдкіх відаў жывёлаў, акрамя хіба што зубра? Чаму вучоныя не з'яўляюцца тут аўтарытэтам? Чаму экалагічны турызм па сваёй значнасці знаходзіцца тут на апошніх месцах? Чаму навуцы і экалагічнай адукацыі народа не ўдзяляецца патрэбнай увагі? Чаму ўсё накіраванае на гаспадарчую дзейнасць і камерцыю? Ды таму, што гэта – дзяржаўная палітыка, у аснове якой цынізм спажывальніка, які і блізка не дбае аб будучыні і нашчадках.

**Ганна ПІЛАТОВІЧ**

**З НАТУРЫ**

# Чыпсы колеру хакі

У гэтай гісторыі няма ніколькі мастацкіх абагульненняў ці алегорыяў. Зусім рэальная гісторыя, у якой нават адрас ёсць.

Мінскі дворык. На лавах – дзеці, бабулі: усё як звычайна. Двор шырокі, шыкоўны нават. Абапал яго два зайздроснай планіроўкі гмахі. У двор заходзіць пара маладых людзей з дзіцем і сабакам. Пара сядае на лаву, дзіця і сабака маюць намеры бавіць час на свой густ: гуляцца, бегаць. І тут: «Вы чего в наш двор приперлись? У вас своего нет? А ну, идите отсюда! – ускінуліся дзве пажылыя заўсёдніцы дваровых лаваў. – Еще и с собакой!..

Адным словам, такі хай паднялі, што выгналі-такі «чужынцаў». Нарэшце супакоілі дых і нервы, перайшлі на звычайныя свае тэмы:

– Ой, у этих белорусов все не как у людей! Вот у вас, в Сибири, как делают пельмени? Вот у нас, на Урале... – пераможны дуэт бабуль перайшоў на кулінарныя тэмы, а між пельменямі абмовіліся яны, што прыехалі ў Беларусь з мужамі-вайскоўцамі. І шыкоўныя дамы з двума вокнамі на пакой і пашыранай планіроўкай былі пабудаваныя для іх. Жывуць на неблагія вайсковыя пенсіі, мужы яшчэ і працуюць...

Не трэба ніякай маралі, акцэнтаў і г.д. У нас ужо расстаўленыя яны, каго лічыць «гаспадаром», а каго «прыблудай». Дзяржава актыўна падтрымлівае гэтую перакуленую шкалу. Бо ў тым жа двары была і другая гісторыя.

Адна беларуская журналістка разгаварылася з кабетай. Здавалася, не дурная, інтэлігентная жанчына. Цвярозыя меркаванні, цікавыя думкі. І раптам: «Фу, в эту нищую Беларусь мы и ехать не хотели. Да мужа по службе послали. Уже здесь 20 лет, а к этому корявому белорусскому языку привыкнуть не могу!» – доўга яна не магла спыніцца. Мая знаёмка не стала яе пераконваць, бо лячыць гэта позна, проста сышла.

Уяўляеце вы недзе ў свеце, каб, напрыклад, у Францыі нешта назвалі «лягушатнік», «жабаед»? На Украіне – «хахол»? У Расіі – «маскаль»? А ў нас ёсць чыпсы «Бульбаш». Яшчэ ў нас ёсць замежная мова – беларуская. Ці варта здзіўляцца: у Брэсце, дзе нашу мову прызналі замежнай, вельмі шмат вайскоўцаў. А жонкі ў іх спрэс педагогі. Яны і складаюць такія праграмы для свядомасці «мясцовага насельніцтва». Толькі хто большы нягоднік: той, хто з-за цемрашальства імперскай закваскі так сябе паводзіць, ці той беларус, які з выбачальнай усмешачкай моўчкі глытае гэта?

Дарэчы, я казала, што гісторыі гэтыя маюць адрас. Элементарна: цэнтр Мінска, за філармонію, два дамы, адзін за адным. У першым – крама «Праваслаўная кніга». Прыйдзіце калі-небудзь у гэты дворык. Пагаварыць па-беларуску.

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## Час набываць еўра

З 1 студзеня 2002 года ў краінах Еўрапейскага валютнага саюза ў абарачэнне ўводзяцца банкноты і манеты еўра. Праз два месяцы новая валюта стане адзіным законным плацёжным сродкам на тэрыторыі Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Грэцыі, Ірландыі, Іспаніі, Італіі, Люксембурга, Нідэрландаў, Партугаліі, Фінляндыі і Францыі.

Як паведамляе ўпраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі, найбольш распаўсюджанай замежнай валютай вышэйпералічаных краінаў у Беларусі з'яўляецца нямецкая марка. Аднак большасць беларускіх банкаў плануюць ажыццяўляць абмен у насельніцтва нацыянальных грашовых адзінак усіх вышэйзгаданых краінаў на еўра. Пры гэтым мяркуецца браць мінімальныя камісійныя на ўзроўні затратаў, звязаных з атрыманнем новых банкнотаў. Апрача таго, абмен будзе ажыццёўлены і праз сістэму ўкладных рахункаў, якія былі адкрытыя ў беларускіх банках у валютах краінаў Еўрасаюза.

Нацбанк паведамляе, што Еўрапейскім цэнтральным банкам дазволены ўвоз еўра ў крэдытныя ўстановы Беларусі пасля 1 снежня 2001 года.

Тэрмін абмену наяўнай нацыянальнай валюты на еўра ў цэнтральных банках краінаў Еўрапейскага валютнага саюза вар'іруецца ад чатырох да 20 гадоў, а ў шэрагу краінаў ён наогул не абмежаваны.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

## «Метрапалітан» шукае прыгожых беларусак



У сярэдзіне кастрычніка ў Мінску адбудзецца афіцыйнае адкрыццё прадстаўніцтва мадэльнага агенцтва «Метрапалітан».

Як паведамілі ў прэсслужбе беларускага філіяла кампаніі, першы офіс агенцтва запрацаваў у 1986 годзе ў Парыжы, у супрацоўніцтве з ім пачыналі сваю кар'еру такія вядомыя мадэлькі, як Клаўдыя Шыфер і Наомі Кэмпбел.

Даводзіцца, што сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі «Метрапалітан» распачне з правядзення пры падтрымцы Мінгарвыканкама і французскай амбасады маштабнай акцыі з мэтамі «падабраць дзяўчат для ўдзелу ў конкурсе *Metropolitan Top Model Belarus*», а таксама «вызначыць сярод іх лепшую, якая прадставіць Беларусь у фінале міжнароднага конкурсу-2001». Акцыя пройдзе ў два этапы. Першы — аўтобуснае турнэ напрыканцы жніўня, другі – фінальнае шоу ў Мінску, удзел у якім возьмуць дзяўчаты, адабраныя на яго падчас турнэ.

Паводле словаў менеджэра мінскага аддзялення «Метрапалітан» Іва Прудома, «прыгажосць славянскіх, і ў прыватнасці, беларускіх дзяўчат ні ў чым не саступае знешнасці многіх зорак Галівуда. Гэтую прыгажосць павінен убачыць увесь свет. Супрацоўнікі нашага агенцтва галоўную сваю задачу бачаць у тым, каб знайсці перспектыўных дзяўчат, даць ім прафесійныя навыкі і дапамагчы зацвердзіцца ў якасці мадэляў сусветнага ўзроўню». Дарэчы, летась конкурс *Metropolitan Top Model* выйграла якраз віцяблянка.

**Алесь КАТОВІЧ**

**СПОРТ**

## Змена лідэраў

Уладальнік Кубка Беларусі па футболе, «Белшына» з Бабруйска, аднаасобна ўзначаліла турнірную табліцу першынства рэспублікі пасля 15 тура, у якім на выездзе атрымала перамогу над аўтсайдэрам розыгрышу, футбалістамі наваполацкага «Нафтана» з лікам 3:1. Дагэтуль яна толькі набліжаліся да пазіцыі нязменнага лідэра чэмпіянату, барысаўскага БАТЭ, і нават некалькі разоў дзяліла з ім першы радок. Зараз галоўны сапернік прайграў у Брэсце мясцовым дынамаўцам, 0:1, і вымушаны быў саступіць ганаровае месца. Каманда Вячаслава Акшаева мае 35 ачкоў, маладыя футбалісты Юрыя Пунтуса — 32.

Зрабіў крок наперад і калектыў, аб якім у апошні час было шмат размовы, прычым, зусім непрыемнай. Гаворка ідзе аб мазырскай «Славіі», якая няўдала гуляла ў Лізе чэмпіёнаў, зняславілася скандалам са сваім лепшым гульцом Раманам Васілюком і гэтак далей. Пасля правалу ў самым прэстыжным еўрапейскім турніры, як вядома, быў цалкам заменены трэнерскі штаб на чале з Уладам Петравічам, які нагадваў цэлую «югаслаўскую» дыяспару, і старшыня савета дырэктараў Анатоль Зубоўскі запрасіў «пакіраваць» увогуле не дрэннай камандай новага галоўнага трэнера, былога настаўніка сталічных дынамаўцаў Паўла Раднёнка, які за два апошнія сезоны трэці раз мяняе адрас пражывання. Апошнім месцам ягонай працы, таксама ў ролі «галоўнага», да прызначэння ў Мазыр, быў клуб ледзь не апошняга дывізёна — мінскі СКАФ, які належаў той жа ...«Славіі». Справы ў ім ішлі добра, студэнты скокнулі ў клас вышэй, мары былі, як у Напалеона, але раптоўна вясной фінансаванне з боку таго ж Мазыра спынілася, цікавы калектыў перастаў існаваць, і вось зараз – чарговая метамарфоза беларускага футбола: былы беспрацоўны Раднёнак зноў вярнуўся практычна да сваіх «бацькоўдабрадзеяў», не пабаяўшыся двойчы ўступіць у адну і тую ж раку з назвай Прыпяць... Як бы там ні было, дэбют маладога настаўніка стаў вельмі гучным: 4:0 — так стартаваць з трэнераў не ўдавалася нікому. Мазыране набралі 26 ачкоў і дзеляць трэцяе-чацвёртае месцы разам з гродзенскім «Нёманам-Белкардам», які ў апошнім туры саступіў гамяльчанам — 1:2. Таксама 26 ачкоў мае салігорскі «Шахцёр».

Зараз у спаборніцтвах амаль на два тыдні аб'яўлены працяглы перапынак. Звязанае гэта, у першую чаргу, з тым, што яшчэ тры беларускія калектывы пачнуць выступленне ў розыгрышы Кубка УЕФА – «Белшына», БАТЭ, «Шахцёр», ды адбудзецца таварыскі матч маладзёжных зборных Беларусі і Грэцыі.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Информационные технологии могут служить всем

*Некоторые лидеры высоких технологий, включая Била Гейтса, сомневаются в ценности информационной технологии (ИТ) для развивающихся стран, особенно в сравнении с такими приоритетами, как пища, медикаменты и школы. В какой-то степени они правы; антивирусное программное обеспечение не может заменить вакцины. Но г. Гейтс, который является также знаменитым филантропом, дарующим вакцины, и его друзья-скептики зарабатывают себе плохую репутацию, недооценивая, как много ИТ может сделать для бедных людей мира.*

Для начала ИТ может заставить рыночную экономику работать. В основном, экономика – это процесс, при котором рынки забирают то, что у нас есть – труд и сырье – для того, чтобы произвести то, что мы хотим. Как могут миллионы независимых потребителей из разных мест точно объяснить миллионам независимых производителей в разных местах, что они хотят, чтобы, таким образом, все вместе они не произвели слишком много часов и слишком мало хлеба? Информация о рынках и особенно ценах — это ключ к разгадке.

При хорошо функционирующей экономике, когда не хватает яиц для удовлетворения покупательского спроса, их цена возрастает. Фермеры, понимая выгодные возможности, выращивают больше кур, чтобы произвести больше яиц. Людям нужно больше яиц, и, как по волшебству, появляется больше яиц. Одинаково важно при этом то, что фермеры получают больший доход, а потребители платят меньше за яйца. Не важно, Волл Стрит это или Западная Африка, информация заставляет рынки работать.

К сожалению, дела обстоят не так хорошо в бедных странах. У них часто не хватает даже основных средств связи, таким образом, сигналы не передаются, и рынки работают не очень хорошо. Вот как ИТ может им помочь.

В развивающихся странах большинство взрослых людей работают фермерами или рабочими. Основной интерес фермера – за сколько он может продать яйца. В то время, как цены отличаются в каждой деревне, фермер обычно знает только местную цену. Таким образом, даже если цена в городе, например, выше, он не знает о том, что он может продать яйца городу. Не понимает он также и того, что для него является выгодным вырастить больше кур. Он упускает возможности получить больший доход, а городские потребители сталкиваются с проблемой слишком высоких цен.

Простая технология может помочь. Не так давно посетив Бангладеш, мы видели фермеров, которые использовали сотовые телефоны для того, чтобы позвонить в другие деревни и города перед тем, как решить, где продавать свои продукты. Они потратили 20 центов на звонки потому, что, по подсчетам одного фермера, это принесет им на 50% больше прибыли при продаже яиц. Стараясь продать свой товар по самым высоким ценам, фермеры отправляют яйца туда, где они больше всего в цене, понижая цену для потребителей. Это работа рынка в своем лучшем виде и немного технологии для смазывания колес.

Как ИТ может помочь рабочим? В сельской местности постоянные рабочие места являются редкостью. В основном, потребности работодателей в труде сильно отличаются день ото дня, и часто они непредсказуемы. Поэтому обычно утром рабочие собираются в своем деревенском центре, и туда приходят работодатели, чтобы нанять их. Часто в поисках краткосрочной работы рабочие теряют много времени, или, что еще хуже, рабочие в одной деревне могут остаться незанятыми, в то время, как работодатели в близлежащих деревнях не могут найти достаточное число рабочих. На примере Бангладеш опять-таки видно, как технология может помочь. Наблюдая за тем, как рабочие Грамен устанавливают телефон в деревне, один из нас залез на дерево, чтобы помочь повесить кабель антенны. Не удивительно, что иностранец, который вот-вот упадет с дерева, привлек любопытных зевак.

Когда мы спросили, почему так много людей были безработными, нам ответили, что в тот день в деревне не было работы. Завершив установку, мы позвонили работодателям Грамен в близлежащие деревни. В течение нескольких минут трое из зевак получили работу. Эти люди получили в тот день зарплату, а фермеры, нанявшие их, произвели больше продуктов. Более совершенные технологии, такие как сетевые компьютеры, могли бы повысить качество подбора и сократить время поиска, одним лишь нажатием открывая возможности найти работу или узнать цены во всех необходимых местах.

В обоих примерах ИТ принесла реальную экономическую прибыль, и фермеры, и рабочие получили больший доход. С таким доходом они могут заплатить за большее количество необходимых вещей, таких как пища, медикаменты или школьные взносы для своих детей.

В большем масштабе результаты были бы еще заметнее; вместо того, чтобы помочь только трем рабочим или фермерам, небольшой центр связи в каждой деревне в развивающемся мире мог бы ежедневно класть дополнительные деньги в карманы трех миллиардов людей, которые пытаются прожить на менее чем два доллара в день. Единственным достойным способом положить конец лишениям является увеличение возможностей заработать. ИТ как раз может это сделать вместе с невидимой рукой рынка, превращающейся в руку помощи для бедных людей мира.

Конечно, бедным нужно больше, чем просто рыночная экономика. Мы должны продолжать вкладывать средства в здравоохранение и образование, особенно таким творческим образом, как это делает фонд г.Гейтса. Но это не предложение «или – или», потому что ИТ тоже может предоставить помощь в этой области.

Например, многие общественные проблемы со здоровьем можно предотвратить или вылечить с помощью распространения информации, и часто это дешевле, чем вылечить проблему впоследствии. Подключение больниц к интернету могло бы повысить их продуктивность и позволить проводить диагностику и предоставлять информацию на расстоянии, если не хватает местных врачей или медицинских справочников. В настоящее время ценные технологии так же широко применяются в образовании, включая доступ на расстоянии к библиотекам, учебникам и инструкциям из тех мест, где такие вещи являются редкими, как и в управлении, социальной мобилизации и коммерции.

Недавние достижения сильно понизили стоимость технологий и доступа к ним. Ограничивающим фактором сейчас является то, что мы не думаем о реальной ценности ИТ, «Информации», таким образом, это не является главным приоритетом для организаций, которые работают над развитием третьего мира. А должно им быть.

**Project Syndicate**
**Роберт ЙЕНСЕН, Ричард ЦЕКХАУЗЕР**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 6 - 12 августа

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. Удается привлечь инвестиции в родной дом или организовать хотя бы маленький фуршет по поводу знаменательного события в начале недели. Ваше имя на слуху, несмотря на независящие от вас жесткие условия. Можно даже вести собственную игру, а кому-то – устраивать ребенка в престижное место. В результате возврата к какой-то тайне или следственному процессу вы снимаете дивиденды в конце недели.



**ТЕЛЕЦ**. Придется держать ответ за финансовые проекты. При этом родственники хотя и учат жить, но и помогают материально. Вполне вероятно, что какой-то «американский дядюшка» готовит приятный сюрприз. Чего не скажешь о супруге, ведь кто-то в семье ведет себя достаточно жестко и бескомпромиссно. В пятницу и субботу не оставляйте квартиру без присмотра.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Кажется, что против вас ополчился весь мир. Во всяком случае, испытание на прочность нешуточное. Однако в самом начале недели не исключено финансирование, значимое приобретение, сил и настроения прибавится. Какая-то яркая личность дает возможность укрепить ваш статус. В пятницу и субботу – блеф и розыгрыши, будьте особо осторожными на дорогах и со случайными знакомыми.



**РАК**. Понедельник из тяжелого дня может превратиться в легкий и праздничный. Очень многие смогут по достоинству оценить ваши усилия и профессионализм в оценке и решении важнейших задач. Действуйте! Если кто-то мечтает подлечиться или поправить здоровье, путешествуйте недалеко и ненадолго. Не усердствуйте в творчестве, требованиях к детям и любовных надеждах – бесполезно, пусть временно это отойдет на второй план.



**ЛЕВ**. Если вы хотите узнать, что ощущали Адам и Ева, постарайтесь оказаться на каком-нибудь райском островке в понедельник. Тайные процессы набирают мощную энергию, и если вы вовлечены в них позитивно, то получите свою выгоду. Однако чем меньше вы находитесь в родных местах, в доме, тем больше вероятность успеха. Вы способны создать гениальные творения, получить порцию вдохновения и любви.



**ДЕВА**. Кто-то чувствует время крупных ставок и с трудом справляется с напряжением кризисного момента. Очень близкий родственник способен подтолкнуть к катастрофическим переживаниям. В понедельник вы увлекаетесь заграничными проектами или контактами с влиятельными людьми, сулящими приличные выгоды. Но впоследствии самое интересное произойдет у вас за спиной, за кулисами. Займитесь лечением – будет толк.



**ВЕСЫ**. Пока с деньгами трудновато. Но неплохо бы пройти по второму кругу среди тех же людей, не исключено, что ресурсы будут найдены. У кого-то пробьет звездный час, карьерный рывок в понедельник. Награда найдет героя. Вы вовлечены в бурный поток встреч, согласований, круглых столов и дискуссий. Вокруг собирается небольшой интересный коллектив, способный к результативному совместному действию.



**СКОРПИОН**. Если вы остаетесь на работе, то закружитесь в потоке информации и проблем, а вознаграждения особенно ждать не приходится. В начале недели вдали от дома или среди иностранцев возможны отменные перспективы в поиске «запасного аэродрома». А у кого-то – самые благотворные изменения у супруга, в семейной жизни. Вы почувствуете прилив сил, деньги уходят и приходят не зря. Операция результативна.



**СТРЕЛЕЦ**. Вскрываются все тайные пружины, которые работают против вас. Неплохо бы вместо того, чтобы гнуть свою линию и дальше, лучше отправиться в дальний путь, заняться активным отдыхом. В понедельник кто не рискует – тот не пьет шампанское, вы можете пережить острые, но благотворные минуты. Намечается маленький праздник жизни, «алые паруса». Кто-то ходит по свадьбам, а кто-то и сам готов ее устроить.



**КОЗЕРОГ**. Кто-то достаточно остро воспринимает несправедливость оценки проделанного тяжелого труда. Смотрите, чтобы не было срывов в состоянии здоровья. Зато личная жизнь расцветает. Ориентируйтесь на партнера или супруга – и у вас появится иной взгляд, раскроются новые горизонты. Есть шанс зарекомендовать себя закулисных дел Мастером, пока не время выходить из подполья. В конце недели вероятны потери документов.



**ВОДОЛЕЙ**. Требуется исключительно добросовестное выполнение своего долга и обязанностей – и тогда вероятно награждение в понедельник. Зарубежные коллеги готовы к ценным предложениям. Относительно вас соблюдается редкое единодушие в коллективе. Если вы намечали какой-то проект на работе – вернитесь к нему, можете добиться положительного результата. Вероятны сватовство, предложение равноправного союза.



**РЫБЫ**. Отвлекитесь от всех прежних форм деятельности. Вы успешно можете совместить рабочие интересы с активным отдыхом, если подойдете к этому творчески, не так, как раньше. Отправляйтесь в дальний путь или романтическое путешествие, на насиженном месте вас ждет упадок сил и давление со стороны. Ваше сердце открывается для любви, игры или детей. Но, скорее всего, это будет возврат к одной из прежних симпатий.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1743 Нумар падпісаны ў друк 05/08/2001 (15:00) Наклад – 9.410

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014